*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 46 (258)

15 лістапада 1995 г.

Кошт — 500 рублёў

**БІЛІНГВІЗМ У ЗША**
Стар. 4.

**ПРЫГОДЫ БЕЛАРУСА**
Стар. 4 і 7.



**СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ: СПАДЗЯЮСЯ НА МАЛАДОЕ ПАКАЛЕННЕ БЕЛАРУСАЎ**
Стар. 2 і 3.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **ДА ПАЧАТКУ ВЫБАРАЎ У ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ЗАСТАЛОСЯ ДВА ТЫДНІ.**

○ ***ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ВЫСТУПІЎ З ВІНШАВАЛЬНЫМІ СЛОВАМІ*** *ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы з нагоды сямідзесяцігоддзя гэтага тэатра. Выступаў па-беларуску. Гучала натуральна і нават успрымалася лепей беларуская мова з вуснаў Прэзідэнта, чым расійская.*

○ **АДБЫЎСЯ СХОД 119 ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА XIII СКЛІКАННЯ.** Быў прыняты зварот да выбаршчыкаў.

○ ***БЕЛАРУСКАЯ КАМАНДА КВЗ СУСТРАКАЛАСЯ Ў МАСКВЕ З КАМАНДАЙ ХАРКАВА І, НА ЖАЛЬ, ПРАІГРАЛА.*** *Балельшчыкі нашай каманды, як і раней, віталі яе бел-чырвона-белымі сцягамі.*

○ **АДБЫЛАСЯ НАРАДА ДЫРЭКТАРАЎ ТЭАТРАЎ І КАНЦЭРТНЫХ УСТАНОЎ.** Перад прысутнымі выступіў намеснік міністра культуры і друку Уладзімір Рылатка. Ён, у прыватнасці, сказаў: «Напэўна трэба мяняць сістэму дзяржаўных датацый. Трэба перастаць займацца абаронай усяго, перастаць карміць калектывы, якія не нясуць творчага патэнцыялу. Магчыма, трэба праводзіць атэстацыю, якая творчая ініцыятыва вартая таго, каб быць падтрыманай дзяржаваю. У мастацтве павінна быць канкурэнцыя. А ў дзяржавы, паверце, хопіць разумення таго, што сваю культуру нацыя не павінна страціць...»

○ ***СТАРШЫНЯ АБ'ЯДНАНАЙ ГРАМАДЗЯНСКАЙ ПАРТЫІ СТАНІСЛАЎ БАГДАНКЕВІЧ У ГУТАРЦЫ З КАРЭСПАНДЭНТАМ «ЗВЯЗДЫ», УСПАМІНАЮЧЫ СВАЁ БАНКІРСТВА, СКАЗАЎ:*** *«Калі ўвесь народ думае, што там, у агульнай рублёвай зоне, шчасце.,. гатоў быў ісці на кампраміс. Аднак калі Кебіч і Мяснікові адчулі, што Расія не згодна пакінуць нам «суверэнныя» правы, яны сталі на пазіцыю Расіі, гатовы былі падпісаць усё. Я сказаў, што на гэта не пайду — выгады ніякай няма! У народа ўяўленне, што Расія — гэта былы СССР з рэжымам цэнтралізаванай эканомікі, што Чарнамырдзін дасць каманду — і нам адпусцяць за бесцань газ, нафту. Але ў Расіі ўсё дэцэнтралізавана, там мясцовыя шэйхі камандуюць — па якой цане і колькі...»*

○ **У ГЭТЫМ ГОДЗЕ 7 ЛІСТАПАДА Ў НАШЫХ КАЛЕНДАРАХ,** як і пяць гадоў назад, пазначана чырвоным колерам. У Менску на плошчы Незалежнасці з гэтай нагоды адбыўся мітынг, у якім удзельнічалі ў пераважнай большасці людзі пенсійнага ўзросту. У Расіі свята Кастрычніцкай рэвалюцыі камуністы адзначылі больш бурна. На мітынгах прагучала і абяцанне, што калі камуністы вернуцца да ўлады, то яны сваіх ворагаў адправяць у лагеры.

○ ***ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!*** *Падпісная кампанія на перыядычныя выданні заканчваецца 30 лістапада. Калі вы яшчэ не падпісаліся на «Наша слова», але любіце нашу газету, раім гэта зрабіць неадкладна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт падпіскі на адзін месяц — 3250 рублёў; на тры — 9750 рублёў і на шэсць — 19500 рублёў. Наш індэкс 63865.*

# *У абарону мовы ды гісторыі*




Напярэдадні і пасля Дзядоў з ініцыятывы патрыятычнага руху БЗВ ладзілася пікетаванне рэзідэнцыі Прэзідэнта. Пад нацыянальным сцягам з патрабаваннямі «Спыніць русіфікацыю» ды «Абаронім нацыянальную гісторыю» пікетчыкі дэманстравалі сваю нязгоду з праводзімай сёння палітыкай зняважы беларускай мовы ды гісторыі.

Ці не пікет паўплываў на тое, што сваю прамову на юбілеі Купалаўскага тэатра Прэзідэнт прачытаў на мове беларусаў. І добра-такі прамаўляў па-беларуску.

**М.АХРЫМУК.**
**Фота У.КАРМІЛКІНА.**




# Купалаўскаму тэатру — 75 гадоў

Нацыянальнаму акадэмічнаму тэатру імя Янкі Купалы — 75 гадоў. Дата, якая паказвае на творчую і жыццёвую сталасць... Колькі перажыта за гэты час, колькі творчых адкрыццяў адбылося на сцэне, колькі «зорак» запалілася на ёй!

Першым мастацкім кіраўніком тэатра быў Ф.Ждановіч, першым спектаклем, якім адкрыўся тэатр, быў спектакль «Рысь» па аповесці «У зімовы вечар» Э.Ажэшкі. Здарылася гэта 14 верасня 1920 года. Сёння, як і ад пачатку свайго існавання, тэатр з'яўляецца захавальнікам нацыянальнай культуры, прадаўжальнікам традыцый нацыянальнай драматургіі...

Юбілейныя святкаванні адбыліся 1 лістапада. Да гэтага дня быў прымеркаваны «Фестываль сяброў» — многія тэатры, айчынныя і замежныя, прывезлі свае спектаклі ў падарунак нашаму гледачу . Сярод гасцей — акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа з Віцебска, драматычны тэатр імя Венгеркі з Беластока, Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Івана Франко з Украіны, Летувіскі акадэмічны тэатр драмы...

На юбілейным вечары, 1 лістапада, што адбыўся ў памяшканні Нацыянальнага тэатра, прысутнічаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Ён зачытаў віншаванне калектыву тэатра ў сувязі з 75-годдзем заснавання. У віншаванні, у прыватнасці, гаворыцца: «Тэатр, які носіць імя вялікага беларускага песняра і з любоўю завецца ў народзе Купалаўскім, з'яўляецца гонарам нацыянальнай культуры і мастацтва. У гісторыі гэтага вядучага творчага калектыву Беларусі адлюстраваны амаль усе галоўныя працэсы духоўнага жыцця народа, яго складаны і цярністы шлях да волі і лепшага лёсу, спрадвечнае законнае жаданне «Людзьмі звацца»....

Прэзідэнт таксама запэўніў прысутных, што ведае праблемы беларускай культуры (якія ў асноўным тычацца яе хранічнага жабрацтва), і зробіць усё, каб «перацягнуць» творчую інтэлігенцыю на свой бок...

Рэдакцыя газеты «Наша слова» далучаецца да віншаванняў у адрас тэатра-юбіляра і жадае яму творчага плёну, творчых узлётаў, дабрабыту і — мужнасці ў адстойванні нацыянальнай культуры.

**Л.Ш.**

*Творчасць нашых чытачоў*

## Дадому

Да роднага дому еду.
Трэба бацькоў адведаць.
З думкай імчу адзінай:
Там жа чакаюць сына.

Стрэне на дворышчы тата,
Прыветна запросіць у хату.
А там, пяшчотна, матуля,
Як у дзяцінстве прытуліць.

Пэўна пара змірыцца,
Такое не можа збыцца.
Узімку прыеду ці ўлетку,
Пакладу на магілы кветкі.

## Веру

Важкім будзе наш колас
жытнёвы,
Васількі карагод павядуць.
Не загіне матуліна мова
І традыцыі зноў ажывуць.

Мілагучныя словы пальюцца,
Неба будзе над намі святлець.
Веру я, беларусы ачнуцца,
Беларусь яшчэ будзе квітнець!

**Мікалай МАСКЕВІЧ.**
м.Мядзел.

**Наш індэкс — 63865**

**Працягваецца падпіска на першае паўгоддзе 1996 года.**

# Да 50-х угодкаў утварэння Саюза патрыётаў Беларусі

50 год таму ў лістападзе 1945 года адразу пасля спусташальнай для краіны вайны, зразумеўшы, што бальшавізм зноў узяўся за знішчэнне беларушчыны, у час страшнага камуністычнага таталітарызму і бязлітаснага тэрору, мы, нацыянальна свядомая моладзь з Пастаўскага і Глыбоцкага педагагічных вучылішчаў, аб'ядналіся ў «Саюз беларускіх патрыётаў», каб бараніць ад русіфікацыі нацыянальную школу, мову і культуру, бо сцярпець было немагчыма той знявагі і гвалту, што чыніліся над усім беларускім. З-за слабай сувязі мы толькі цьмяна чулі, што гэтак жа адбывалася і ў іншых навучальных установах на Беларусі. Наша арганізацыя была чыста асветніцкая Многія з нас яшчэ не дасягнулі нават паўналецця. Мы не ведалі, што за чыстую любоў да сваёй краіны, за жаданне вучыцца на роднай мове нас пакараюць так сурова. Хоць арганізацыя лічылася падпольнай, але канспірацыя была вельмі слабай, і ў 1947 годзе пачалася над намі жорсткая і бесчалавечная расправа. Многіх заняволілі і сагналі ў ГУЛАГ на доўгія тэрміны, а чатырох нашых хлопцаў прысудзілі да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу, замяніўшы потым прысуд на 25 год лагераў.

Так у нас забралі маладосць, знявечылі жыццё, і мы, хто не памёр ад жудасных умоў, сталелі і набіраліся розуму не за школьнай партай, не ва універсітэтах, а на катарзе.

Прамінулі многія гады. Мы, хто яшчэ жывыя, ужо старыя, нямоглыя, хворыя і з незажыўшымі ранамі ад мінулага. Але мы засталіся патрыётамі Беларусі і любім свой народ па-ранейшаму. Таму нас не пакідае трывога за лёс нашай Радзімы. Тым не менш, мы жывём надзеяй, што калі не самі, то нашы дзеці і маладыя суайчыннікі дажывуць да часоў сапраўднай незалежнасці і свабоды роднай Беларусі.

Верым: наша самаахвярнасць не была марнай.

Карыстаючыся нагодай, звяртаемся да сяброў па змаганні, па няволі і пакутах за Беларусь са словамі прывітання.

Пачуйце наш голас, хто яшчэ жывы, дзе б хто ні знаходзіўся, — аб'яднаемся душой, у думках у гэтыя дні юбілею. Разам памянём, ушануем памяць тых, каго ўжо не стала, хто заўчасна сышоў у дол, і тых, хто ляжыць безыменным у вечнай мерзлаце Сібіры і Поўначы і іншых мясцінах страшнага бальшавіцкага ГУЛАГа.

Жыве Беларусь!

**Антон ФУРС, сябра Глыбоцкай групы СПБ.**
**Аляксандра УМПІРОВІЧ (Фурс), сябра Пастаўскай групы СПБ.**

# Спадзяюся на маладое

***З народным дэпутатам Вярхоўнага Савета РБ, доктарам тэхнічных навук, прафесарам, членам-карэспандэнтам АН Беларусі, заслужаным дзеячам навукі і тэхнікі Станіславам Шушкевічам гутарыць карэспандэнт «Нашага слова». Інтэрв'ю запісана 6 кастрычніка, на IV з'ездзе ТБМ імя Ф.Скарыны.***

**— Станіслаў Станіслававіч, па рэакцыі залы я ўбачыла і Вы, мабыць, заўважылі, што дэлегаты з'езда прывіталі Вас вельмі цёпла. Усім вядома, колькі Вы зрабілі добрага дзеля адраджэння беларускай культуры на пасадзе Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. А цяпер скажыце, калі ласка, якое ў Вас склалася ўражанне ад з'езда?**

— Мне прыемна пачуць ад Вас гэтыя словы і бачыць прыязную рэакцыю дэлегатаў. У мяне такое адчуванне, што я абавязаны зрабіць нешта большае за тое, што мы ўсе разам зрабілі, занепакоеныя за лёс мовы. Мне спадабалася тое, што на з'ездзе не было жорсткай крытыкі і аналізу памылак, а занепакоенасць тым, што трэба рабіць. Я маю пункт гледжання, які крыху адрозніваецца ад таго, што быў выказаны. Я знарок не ўступаў у дыскусію, а хацеў паслухаць. А вам магу сказаць для газеты: культуры не могуць супрацьстаяць адна адной і элементы культуры і мовы таксама не могуць супрацьстаяць. І быць перакананым у тым, што беларускамоўныя школы — гэта лепшая адукацыя, чым, напрыклад, рускамоўныя, — гэта толькі адзін бок праблемы. Трэба, каб рускамоўнае асяроддзе, рускамоўныя школы Беларусі, якія не па сваёй волі, а па накіраванай ганебнай дзейнасці іншых людзей страцілі здольнасць гаварыць і працаваць на роднай мове, усвядомілі, прадстаўнікамі якой нацыі яны з'яўляюцца, якой даўняй культуры. Прапаганда дасягненняў — не толькі тых, якія мы мелі ў мінулым, не толькі з-пад часу бітвы пад Оршай або з-пад часу стварэння нашага універсітэта, які ўзнік раней на 150 гадоў за Маскоўскі, а і з нядаўняга мінулага, напрыклад, з-пад часу Вялікай Айчыннай вайны, была б зараз вельмі дарэчы. Я нядаўна ехаў са сваёй даверанай у мінулым асобай па выбарах, і гэты чалавек мне гаворыць: «Ці ведаеце Вы, што сярод чатырох танкістаў двойчы Герояў Савецкага Саюза — трое беларусаў? Што, напрыклад, Герой Савецкага Саюза, які найбольш збіў нямецкіх самалётаў у адным баі, — беларус?» І такіх прыкладаў шмат. Напрыклад, Тадэвуш Касцюшка пісаў сваёй маці лісты па-беларуску — пра гэта ж проста люд не ведае. Павінен быць нейкі катэхізіс сучаснага свядомага беларуса. І мне здаецца, што вельмі важная задача ТБМ займацца не толькі беларускай мовай, але і культурай у цэлым.

**— Вам прапаноўвалі пасаду старшыні ТБМ?**

— Ведаеце, я хачу пераканаць Ніла Гілевіча заставацца і надалей старшынёй Таварыства. Гэта чалавек, шчыра адданы беларускасці. Я ў гэтым пераканаўся, працуючы з ім разам у Вярхоўным Савеце і за сорак пяць гадоў асабістага знаёмства. А што да арганізацыйнай дапамогі, то я да гэтай справы заўсёды гатовы.

**— Скажыце, калі ласка, Станіслаў Станіслававіч, якую палітычную сілу Вы сёння прадстаўляеце?**

— Ведаеце, каб не заездзілі гэты выраз «здаровы сэнс», то я спаслаўся б толькі на здаровы сэнс, і магу растлумачыць чаму. У Беларусі многа партый, якія маюць праграмы, да якіх я далучыўся б. І больш за ўсё мае перакананні адпавядаюць падыходу Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. Я не раз гаварыў, што па перакананнях я — грамадовец. Але пэўныя канкрэтныя дзеянні і пэўныя канкрэтныя захады нават гэтай партыі, якая мне бліжэй за ўсе іншыя па перакананнях, абавязваюць мяне проста ўстрымацца ад таго, каб у яе ўступіць. Я б сказаў, — у першую чаргу, каб не сапсаваць справы ў самой партыі. Таму што я буду тады рашуча выступаць супраць некаторых людзей персанальна і супраць некаторых падыходаў. І такім чынам пашкоджу справе гэтай палітычнай арганізацыі, якую вельмі паважаю. Таму я цяпер, прабачце, па-за партыямі. Мая палітычная арыентацыя — гэта, перш-наперш, беларуская дзяржаўнасць, рынкавая эканоміка, сацыяльная забяспечанасць і, зразумела, дэмакратыя, паколькі нішто з вышэй пералічанага не можа быць рэалізавана ў сучасным кантэксце без дэмакратыі.

**— А вось гэтая палітычная ініцыятыва «Усход—Захад», як Вы да яе ставіцеся?**

— Зараз, на жаль, шэраг палітычных ініцыятыў у нас накіраваны не на тое, каб зацвердзіць беларускую дзяржаўнасць, каб спрыяць пераходу да новых эканамічных адносін, а на тое, каб паказаць сябе на фоне беларускага беспарадку, на фоне сучаснай



беларускай мітусні. І таму я вельмі стрымана стаўлюся да ўсіх «круглых сталоў», таму што — падкрэсліваю: там вельмі часта абмяркоўваецца не сутнасць справы, а чалавек паказвае, як ён можа на цудоўнай беларускай або рускай мовах шалёна крытыкаваць сваіх апанентаў. А я хачу распрацоўваць канструктыўны пачатак, стваральны пачатак, а не разбуральны.

**— Скажыце, калі ласка, як ідуць справы ў Цэнтры палітычных і эканамічных даследаванняў, які Вы ўзначальваеце?**

— Я б сказаў, што яны ідуць па-ранейшаму, паколькі Цэнтр працуе ўжо амаль два гады. Гэта не дзяржаўная ўстанова. Яна функцыянуе толькі дзякуючы беларускім прадпрымальнікам і беларускім структурам, якія робяць у нас пэўныя заказы і атрымоўваюць справаздачу ў выглядзе канфідэнцыяльнай інфармацыі. Акрамя таго, калі нашы заказчыкі не маюць нічога супраць, шэраг пазіцый мы даём для друку. Мы маем адну супольную тэму з навукоўцамі Германіі і дзякуючы гэтаму маем поўнае абсталяванне ў нашым Цэнтры: вылічальную тэхніку, капіравальную тэхніку і стварылі даволі-такі ёмістую кампутарную базу афіцыйных дадзеных. Яны фактычна атрыманы ў нашым урадзе, у Вярхоўным Савеце, з іншых афіцыйных крыніц. Але мы праводзім такі аналіз і такія зрэзы гэтых дадзеных, якія дазваляюць простаму чалавеку разабрацца, што адбываецца ў дзяржаве і ў якім накірунку мы рухаемся. Так што я яшчэ раз паўтараю: ідэя заказчыкаў, сур'ёзныя адказы і папулярызацыя ў звычайных сродках масавай інфармацыі, калі мы маем туды доступ.

**— Прабачце за некарэктнае пытанне: хто Вам плаціць заработную плату?**

— Мы яе налічваем з тых сродкаў, якія выплачваюць заказчыкі за выкананую намі работу. Я б сказаў, што мы плацім і заработную плату, і даволі-такі вялікія падаткі. Хачу сказаць, што я асабіста з 1 жніўня г.г. зарплату не атрымліваю, каб не рызыкаваць пенсіяй на падставе якога-небудзь незаконнага ўказа. На жаль, як вы ведаеце, у нас гэта магчыма.

**— Вернемся да Вашых дэпутацкіх спраў. Станіслаў Станіслававіч, як цяпер настроены Вярхоўны Савет?**

— Як і заўсёды. застаўся такі самы, як і быў. Раней у яго быў страх ад жнівеньскага путчу 1991 года, а цяпер страх ад Прэзідэнта. І таму многія дэпутаты поўзаюць на пузе, каб залагодзіць Аляксандра Рыгоравіча. Не ўсе, вядома, а тыя, што не прыехалі на сесію.

**— Значыць, супраціўлення антыбеларускай палітыцы нашага ўрада ў Вярхоўным Савеце мы не маем?**

— Вярхоўны Савет ніколі не быў беларускім. Але ён быў вымушаны пайсці насустрач беларускасці, таму што Дэкларацыя аб незалежнасці адкрыла многім дэпутатам шлях да вядомасці, да пасад, якія не трэба было ўзгадняць з Масквой.

**— І нават пры ўсім тым, што Прэзідэнт так дрэнна ставіцца да заканадаўчага органа, дэпутаты ўсё роўна не «правеюць»?**

— Гэта вельмі складанае пытанне — яно для «круглага стала» па палітычных праблемах. Справа ў тым, што 80 працэнтаў дэпутатаў у гэты Вярхоўны Савет накіраваны былой камуністычнай партыяй. Час ад часу яны пра гэта забываюць, а час ад часу ўспамінаюць. І тады яны, усе гэтыя 80 працэнтаў, галасуюць, каб аднавіць свята Кастрычніцкай рэвалюцыі, каб развітацца з беларускай сімволікай і мовай, каб правесці антыбеларускі рэферэндум.

**— Калі мы ўжо закранулі пытанне рэферэндуму, то скажыце, ці была мажлівасць у Старшыні парламента Мечыслава Грыба не дапусціць правядзення гэтай спрэчнай, з пункту гледжання існуючых законаў, акцыі?**

— Сёння Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь вельмі прыгожа выступіў у абарону беларускай мовы. А гэта ж з-за яго паслужлівасці адбыўся рэферэндум, бо першапачаткова Вярхоўны Савет галасаваннем усе пытанні Прэзідэнта да рэферэндуму адхіліў. І не трэба было выслужвацца і ставіць гэтыя пытанні на галасаванне паўторна. Дык тады спадар Грыб забыўся, што ён беларускамоўны, а сёння пра гэта ўспомніў. На жаль, такая трансфармацыя адбылася з ім і тады, калі вырашалася пытанне калектыўнай бяспекі.

**— Станіслаў Станіслававіч, Вы ўдзельнічаеце ў выбарчым марафоне? Ад якой партыі?**

— Удзельнічаю. Вылучаюся як незалежны кандыдат. У мяне ёсць ініцыятыўная група прыхільнікаў. У нас адсутнічае дыктат, кожны вольны гаварыць тое, што разумее і думае, а таксама вольны падпарадкоўвацца тым правілам, якія мы сфармулявалі разам. Спадзяюся, што мае прыхільнікі збяруць неабходную колькасць подпісаў і я буду балатавацца на маёй былой 256-й Адоеўскай выбарчай акрузе.

**— Якая Ваша выбарчая праграма?**

— Мая праграма застаецца ранейшай, той самай, з якой я ішоў на прэзідэнцкія выбары.

## *ЖЫЦЦЁ ТАВАРЫСТВА*

### Расонскі палетак

Раённая арганізацыя ТБМ імя Ф.Скарыны налічвае 35 чалавек. Гэта пераважна настаўнікі роднай мовы і літаратуры. Яны руплцца не толькі пра адраджэнне і захаванне нацыянальных і гісторыка-культурных каштоўнасцей ды выхаванне моладзі на лепшых традыцыях беларускага народа, але і спрыяюць працэсу беларусізацыі. З 15 агульнаадукацыйных школ раёна — 13 беларускамоўных. Расонская і Альбрэхтаўская СШ — двухмоўныя (так засталося і пасля рэферэндуму): летась быў адзін першы расійскамоўны клас ды 6 беларускіх класаў, а сёлета з 6 першых класаў — адзін беларускамоўны. У вясковых школах усе першыя класы беларускамоўныя. Усе дашкольныя ўстановы раёна пераведзены на беларускую мову навучання і выхавання.

• Штогод у школах з удзелам сяброў ТБМ праводзяцца тыдні беларускай мовы, у праграмах якіх — канферэнцыі па прачытаных кнігах, віктарыны, КВЗ, дыспуты, розныя конкурсы, літаратурныя вечары, гасцёўні. У школах і дашкольных установах ладзяцца народныя абрадавыя святы, гутаркі, лекцыі пра мінулае Беларусі, вусныя часопісы «Беларусь мая сінявокая», «Край блакітных азёр».

У Альбрэхтаўскай і Расонскай школах створаны сяброўствы малодшых школьнікаў «Васількі» і «Крынічкі», якія працуюць пад дэвізам «Мы павінны ведаць мінулае, твой сённяшні дзень, Беларусь». У праграме дзейнасці гэтых суполак — вывучэнне гісторыі і помнікаў Беларусі, Расоншчыны.

У Доме школьніка працуюць гурткі «Інкрустацыя саломкай», «Спадчына», «Мастацкая вышыўка». Штогод праводзяцца агляды фальклорных калектываў, якія ёсць практычна ў кожнай школе.

У раёне працуе вакальна-харэаграфічны ансамбль «Свяціца», які ў траўні 1994 года атрымаў званне народнага і ў склад якога ўваходзяць школьнікі і старэйшыя людзі розных прафесій. Некалькі разоў у год праходзяць выставы народных умельцаў. Створаны і працуюць этнаграфічны музей у Заборскай СШ, этнаграфічныя куткі ў Расонскай, Клясціцкай сярэдніх школах.

Школьныя бібліятэкі прапагандуюць творы беларускіх пісьменнікаў, праводзяць выставы, канферэнцыі.

**Інфармацыя падрыхтаваная па матэрыялах справаздачы, дасланай у Сакратарыят ТБМ напярэдадні IV з'езда.**

Згадкі

# Жыццёвыя прыгоды простага беларуса

Я пражыў доўгае жыццё і з вышыні пражытых гадоў магу сказаць адназначна: ва ўсе часы і пры любой уладзе ўсё беларускае на Беларусі вынішчалася. І, што самае страшнае, — нават сёння, калі мы жывём, нібыта, у самастойнай дзяржаве, працэс гэты не спынены, ён працягваецца і яскравае пацвярджэнне таму — нядаўні рэферэндум.

Апошнія пару гадоў мне даводзіцца часта сустракацца з моладдзю. Моладзь сёння дапытлівая. Заўсёды пытае: як там, за даўнім часам жылося? Восьі я і распавяду пра тое жыццё-быццё, пра якое савецкія газеты і падручнікі напісалі шмат рознай лухты і няпраўды.

Нарадзіўся я ў 1920 годзе ў невялічкай вёсачцы Масцішча былога Дзісенскага павета. Бацькі мае былі сялянамі, праваслаўнага веравызнання. Насельніцтва ў нас скрозь было беларускім, і толькі ў павятовай Дзісне жылі габрэі ды там-сям уздоўж мяжы з Саветамі пракідваліся фальваркі польскіх асаднікаў.

Асаднікі з'явіліся дзесьці пасля 1921 года. Гэта былі легіянеры Пілсудскага, якім «начальнік паньства» даў зямельныя надзелы плошчаю 15-20 га на ўсходняй мяжы Польшчы. Асаднікі, па задуме польскіх уладаў, павінны былі выконваць функцыі інфарматараў на граніцы і, апрача таго, садзейнічаць паланізацыі беларускага насельніцтва. Не ведаю, як наконт інфарматарства, а вось што тычыцца паланізацыі, дык у гэтай справе яны поспеху не мелі. Дзеці асаднікаў бавілі час, вядома ж, з намі, сялянскімі дзецьмі, і таму спрэс гаманілі па-беларуску.

У школах, аднак, вучылі папольску. У нашай чатырохкласнай SZKOLE POWSZECHNEJ, дзе я вучыўся, усе прадметы, апроч Закона божага, выкладаліся на «ензыку». «Ензыка» таго ніхто з нас не ведаў, таму вучоба, асабліва ў першым класе, ішла даволі цяжка.

Настаўнікі ўсе былі беларусамі: у душы многія з іх хіліліся да беларушчыны, але ўслых пра тое не казалі — баяліся згубіць працу. Улады пільна сачылі, каб у школе панаваў польскі дух, і калі хто з настаўнікаў пачынаў казаць «штосьці не тое», яго альбо звальнялі, альбо пераводзілі на працу ў глыбінныя раёны Рэчы Паспалітай. Дарэчы, «педкадрам» тады добра плацілі — прыкладна 150 злотых у месяц. І гэта пры там, што гарнітур з самага лепшага сукна каштаваў не болей 70 злотых. І наогул, настаўнікаў на вёсцы паважалі. Скажам, сяляне пры сустрэчы з «панам настаўнікам» заўсёды злёгку кланяліся і прыўздымалі шапкі. Гэта ўжо потым, пры бальшавіках, аўтарытэт работнікаў школы звялі на нішто: плацілі (і плацяць) жабрачую зарплату і, да таго ж, прымушалі праводзіць у жыццё палітыку «роднай» камуністычнай партыі, ад якой добрасумленнаму працоўнаму чалавеку, не навучанаму красці, на вёсцы было моташна.

Заўважу таксама, што за польскім часам на вёсцы практычна не было п'янства, а сапраўдныя мацюгі, якія сёння зрэдзь часу злятаюць нават з вуснаў дзяўчынак, мы ўпершыню пачулі ў верасні 1939 года, на расійскай мове.

Ну, а каб годна завяршыць тэму «паланізацыі», прыгадаю і польскі касцёл. Той таксама спрабаваў зрабіць з нас палякаў. Але без асаблівага поспеху. Памятаю, мы, дзятва, бегалі ў касцёл, калі хлопец з суседняй вёскі браў жонку-каталічку і ксёндз падчас шлюбу «пераварочваў» яго ў каталіцкую веру. Нам было цікава паглядзець: як гэта будзе адбывацца тое «пераварочванне».

Пасля шлюбу ксёндз дэманстратыўна даў жаніху ў якасці «ганарару» 5 злотых, але болей ахвотнікаў «пераварочвацца» ні ў нашай, ні ў суседніх вёсках не знайшлося.

Пасля сканчэння школы выправіўся я ў далёкі свет — у сталічнае месца Вільню, дзе жыў родны матчын брат — дзядзька Кузьма. Дзядзька быў адукаваным чалавекам і шчырым беларусам. Усю германскую вайну правёў на фронце, даслужыўся да штабскапітана, а калі ў Расіі пачаліся рэвалюцыйныя закалоты, перабраўся ў Вільню, дзе стаў працаваць у беларускіх арганізацыях. Калі дзядзька прыязджаў да нас у адведкі, заўсёды прывозіў стос беларускіх газет і кніжак, якія я з вялікай цікавасцю чытаў. Вось ён і падгавbooрыў бацьку выправіць мяне ў Вільню — вучыцца ў беларускай гімназіі. Бацька спачатку вагаўся, чухаў патыліцу, а потым махнуў рукой: адвёз на станцыю, купіў квіт да Вільні і, навесіўшы яго мне на шыю, перахрысціў на развітанне.

Дагэтуль бываць у вялікіх гарадах не даводзілася, таму Вільня паўстала перад вачыма як штосьці казачнае і неверагоднае.

Гады, праведзеныя ў сценах Віленскай беларускай гімназіі, згадваюцца сёння, як чароўная пара. У гімназіі былі добрыя выкладчыкі: Мікола Анцукевіч, Вінцук Жук-Грышкевіч, Вольга Русак, Хведар Ільяшэвіч (беларускі літаратар), Барыс Кіт (выкладаў матэматыку: па вайне апынуўся з ЗША, дзе займаўся стварэннем аэракасмічнай тэхнікі), Алена Сакалова-Лекант (выкладчыца нямецкай мовы — вучні яе вельмі любілі. Сталася пакутніцай савецкага ГУЛАГа).

У першы год вучобы сядзеў над падручнікамі не разгінаючыся. Асабліва цяжка даваліся лаціна ды нямецкая мова, але потым справа пайшла лацвей, і неўзабаве я пачаў, як кажуць, азірацца на бакі ды браць удзел у розных вучнёўскіх імпрэзах.

У інтэрнаце пры гімназіі жылі хлопцы і дзяўчаты з усіх куткоў Заходняй Беларусі. Жылі дружна, дапамагаючы адно другому: за ўсе восем гадоў вучобы я ніколі не бачыў боек паміж вучнямі. У гімназіі мы не толькі вучыліся, але і з карысцю для сябе бавілі вольны час. Займаліся ў драматычным гуртку, вучыліся граць на духавых інструментах, а вывучыўшыся, хадзілі па віленскім бруку з аркестрам, а таксама спявалі ў хоры. Хорам кіраваў славуты Рыгор Шырма, дачка якога, Алена, вучылася са мной у адным класе. З натхненнем мы спявалі беларускія народныя песні, а таксама «Люблю наш край», «Адвеку мы спалі» ды іншыя песні беларускіх кампазітараў.

Пад Новы год заўсёды ладзіліся вясёлыя вечарыны, а 25 сакавіка, у гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, праводзіліся ўрачыстыя акадэміі, канцэрты хору і аркестра, а таксама выступы беларускіх паэтаў. Добра памятаю, як у нас чыталі свае вершы Максім Танк і Міхась Машара.

З цікавасцю чытаў мэнскія газеты. Іх выпісваў Беларускі музей імя Івана Луцкевіча, які месціўся поруч з гімназіяй і які мы, гімназісты, ледзь не кожнага дня наведвалі. Мушу сказаць, што ў той час я свята верыў ва ўсё, што пісалі савецкія газеты, і не даваў веры газетам польскім, якія паведамлялі страшныя рэчы пра сталінскія рэпрэсіі, пра жабрачае жыццё ў калгасах, пра палітычнае бяспраўе народа і шмат пра што іншае. Я верыў у тое, што ў Савецкай Беларусі людзі жывуць багата і шчасліва, што там няма прыніжаных і абяздоленых і што там квітнее наша родная беларуская мова і беларуская культура. Гэта ўжо потым, калі прыехаў аднойчы на вакацыі, людзі распавядалі, як бальшавікі на тым беразе Дзвіны высялялі людзей з памежнай зоны, прычым, тых, хто не жадаў высяляцца, груба выцягвалі з хатаў і жаночае галашэнне было добра чуваць на нашым беразе.

Гімназію скончыў у 1938 годзе і ад'ехаў з Вільні ў спадзеўцы зноў туды вярнуцца. Марыў вывучыцца на каморніка, а таму паехаў дахаты па даведку аб матэрыяльным стане бацькоў. Калі бацькі бедныя — можна было вывучыцца задарма, а калі не — за вучэнне трэба было плаціць грошы. І хаця наша сям'я — па тадышніх мерках — жыла бедна, мясцовыя ўлады мне такой даведкі не далі. Відаць, таму, што я быў шчырым беларусам і, адпаведна, не надта лаяльным да Польскай дзяржавы.

Застаўся ў вёсцы, стаў дапамагаць бацькам па гаспадарцы, у аднагас займаючыся самаадукацыяй. Адразу па прыездзе падгаварыў бацьку набыць лямпавы радыёпрыймальнік і штовечара слухаў — што дзеецца ў свеце. А ў свеце дзеялася штосьці надта нядобрае — з Захаду насоўвалася вайна.

Улетку 1939 года польскія ўлады правялі частковую мабілізацыю, а потым пачалі «прыбіраць да рук» розных ненадзейных, з іх пункту гледжання, асобаў.

31 жніўня таго года ў нашу хату ўваліліся паліцыянты і абвясцілі, што я арыштаваны. У вёсцы, апроч мяне, заарыштавалі майго сябра Генуся Дзямешку (ён таксама быў шчырым беларусам), пана Шугальскага (той, па чутках, меў сувязь з камуністамі) і Рувіма Лехаха. За што ўзялі апошняга, я нават не ведаю.

Прыгналі нас, чатырох, у Дзісну, у паліцэйскі пастарунак, пасадзілі ў цёмны катух і там, сярод ночы, пачулі, як хтосьці дрыготкім голасам выгукнуў: — Wojna! Праз колькі дзён групу «падрыўных элементаў» перавезлі ў Глыбокае, здалі ў дэфэнзіву, але неўзабаве адпусцілі дахаты.

Ад ранку 17 верасня маці, як заўсёды, даіла кароў і раптам забегла ў хату і паведаміла, што ў Алешчыцах пажар. У Алешчыцах — невялічкім паселішчы на беразе Дзвіны знаходзілася польская памежная стражніца — вось яна і гарэла. Да таго ж там бухалі стрэлы, і я, між іншым, тады падумаў: можа, прыйшлі немцы?

Бліжу абеду на гасцінцы, што лучыць Дзісну і Міёры, з'явіліся ўзброеныя людзі на маленькіх кудлатых конях (мы іх адразу назвалі «манголкамі»). Гэта ішла Чырвоная Армія, якая, як потым напісалі газеты, «працягнула руку братняй дапамогі народу Заходняй Беларусі, які стагнаў пад абцасам польскіх паноў і капіталістаў».

Польскія жаўнеры апраналіся надта фацэтна: усе скрозь у ботах, а тут ехала войска на «манголках», апранутае ў нейкія чорныя ватоўкі і абмоткі, і гэта нашых людзей надта здзівіла.

Шмат хто пабег сустракаць

(Заканчэнне на с.7.)

У сусвеце

# Білінгвізм у ЗША: раз'яднанне грамадства?

Апошнім часам у амерыканскім друку ўсё часцей з'яўляюцца паведамленні аб тым, што дзяцей з англамоўных сем'яў супраць волі іхніх бацькоў пераводзяць у класы з іншай, неанглійскай мовай навучання толькі з тае прычыны, што ў іх «не тыя» прозвішчы ці паходжанне. У Беларусі гэткая з'ява — рэч звычайная. Але чаму падобнае адбываецца ў ЗША?

Усё пачалося ў канцы 60-х гадоў, калі ў краіне сталі ствараца першыя неангламоўныя школы для дзяцей эмігрантаў, у першую чаргу іспанскамоўных. Сёння ў краіне існуе цэлая сістэма гэткіх школ, на ўтрыманне якой штогод выдаткоўваецца дзесяць мільярдаў долараў. На такім моцным фінансавым падмурку разраслася бюракратыя, зацікаўленая ў захаванні сістэмы іншамоўнага школьніцтва. Але што за лёс чакае дзяцей, якім у пачатковых класах мова іх краіны выкладаецца часам толькі паўгадзіны ў дзень? Сёння 30 працэнтаў дзяцей — выпускнікоў іспанскамоўных класаў — не ў стане атрымаць поўную сярэднюю адукацыю, бо яны недастаткова валодаюць англійскай мовай. У карэнных жа амерыканцаў гэты працэнт у тры-чатыры разы ніжэйшы.

Што дала краіне гэткая павага да чужой мовы? Да 60-х гадоў дзеці эмігрантаў навучаліся ў англамоўных школах і дзякуючы таму лёгка ўваходзілі ў новае моўнае асяроддзе. У эмігранцкіх анклавах ужываліся дзесяткі моваў, але гэта нікога не хвалявала — асобная роля англійскай мовы ніколі і нікім не аспрэчвалася. Праблемы шматмоўя папросту не існавала, бо, што мовай уладаў усіх узроўняў — ад мясцовай да федэральнай — была англійская.

Сёння ў ЗША на побытавым узроўні ўжываецца каля 300 моваў. Але карэнных амерыканцаў непакоіць не гэта, а іншае — спробы зрабіць асобныя з іх, у першую чаргу — іспанскую, роўнымі ў правах з англійскай. Але ж стрыжнем, вакол якога фармавалася амерыканская нацыя, была менавіта англійская мова. Таму заклік не дапусціць балканізацыі нацыянальнай культуры, што стала б пагрозай дзяржаўнаму і духоўнаму адзінству ЗША, стаў самым моцным аргументам тых, хто выступае за наданне англійскай мове статуса афіцыйнай.

На федэральным узроўні статус англійскай мовы як дзяржаўнай не вызначаны — у Канстытуцыі ЗША аб гэтым няма нават згадкі, хаця ў канцы XVIII стагоддзя, калі яна прымалася, насельніцтва краіны ўжо карысталася і іншымі мовамі. І нават праз сто гадоў — у канцы XIX — напачатку XX стагоддзя, калі пачалася масавая эміграцыя ў ЗША ірландцаў, італьянцаў, кітайцаў ды іншых народаў, пытанне аб дзяржаўнасці англійскай мовы не ўздымалася. Яна была дзяржаўнай не юрыдычна, а фактычна. Таму патрабаванні валодаць ёй сёння няма нават у амерыканскім законе аб грамадзянстве — гэта значыць, што эмігранты ведаць яе не абавязаны.

Праўда, англійская мова прызнаная афіцыйнай законамі 22 амерыканскіх штатаў. Але на працягу апошніх гадоў прыхільнікі шматмоўя мноства разоў праз суд спрабавалі аспрэчваць гэтыя законы штатаў, спасылаючыся на тое, што яны супярэчаць Канстытуцыі ЗША. Ужо нават склалася практыка разгляду судамі рэгіёнаў, дзе англійская мова мае статус афіцыйнай, скаргаў эмігрантаў, якія, не валодаючы ёй, лічаць, што яны дыскрымінуюцца падчас уладкавання на працу, атрымання крэдыту ў банках і г. д. У пераважнай большасці выпадкаў суды выносяць рашэнні не на карысць ініцыятараў справы, спасылаючыся на тое, што мясцовыя законы не супярэчаць Канстытуцыі ЗША. Праўда, Вярхоўны суд краіны, які мае права праверкі адпаведнасці юрыдычных актаў Канстытуцыі, ніводзін з гэтых іскаў не разглядаў.

Затое ў штатах са значнай колькасцю амерыканцаў лацінаамерыканскага паходжання мясцовыя ўлады часта публікуюць свае акты на дзвюх мовах — англійскай і іспанскай. А ад кандыдатаў ва ўладныя структуры гэтых рэгіёнаў выбаршчыкі нават патрабуюць валодання гэтымі ж дзвюма мовамі, нягледзячы на незаконнасць такіх патрабаванняў.

Якія ж захады да абароны сваіх правоў робяць англамоўныя амерыканцы? Сёння ў Кангрэсе ЗША абмяркоўваецца магчымасць прыняцця федэральнага закона аб статусе англійскай мовы як адзінай афіцыйнай і дзяржаўнай. У камітэтах палат Кангрэса разглядаецца некалькі законапраектаў. Аўтар аднаго з іх — сенатар Эмерсан — прапануе, надаўшы англійскай мове статус дзяржаўнай, дазволіць асобным дзяржаўным структурам — тым, што займаюцца сацыяльнай апекай, медыцынай і г. д., — карыстацца і іншымі мовамі. Затое праект сенатара Шэлбі прадугледжвае жорсткае абмежаванне магчымасці ўжывання іншых, акрамя англійскай, моваў. Чакаецца, што Закон аб мовах будзе прыняты ў ЗША ў бліжэйшы час. Бо і лідэр рэспубліканскай большасці ў сенаце ЗША, і спікер палаты прадстаўнікоў шмат разоў публічна заяўлялі аб тым, што яны з'яўляюцца прыхільнікамі закона аб першынстве англійскай мовы.

А як ставіцца да ідэі прыняцця гэткага закона амерыканскае грамадства? Сёння большасць амерыканцаў занепакоена тым, што наплыў эмігрантаў з краін Лацінскай Амерыкі і Паўднёва-Усходняй Азіі, не валодаючых мовай сваёй новай радзімы, можа радыкальна змяніць характар нацыянальнай культуры краю. І гэты непакой адлюстравалі вынікі нядаўна праведзенага ў ЗША апытання грамадскай думкі, калі 73 працэнты рэспандэнтаў выказаліся за тое, каб адзінай афіцыйнай мовай іх краіны была англійская.

Што да каштоўнасцяў білінгвізму і двухмоўнай адукацыі, аб якіх гаварылася напачатку, дык даследаванні, праведзеныя два гады таму ў Каліфорніі — штаце з самай вялікай колькасцю іспанскамоўных амерыканцаў, паказалі: створаная для эмігрантаў сістэма двухмоўнага школьніцтва патрабуе вялікіх выдаткаў, дае малы плён і, што найважнейшае, раз'ядноўвае грамадства.

**Падрыхтаваў У.ПАНАДА.**

# Кола сям'і

**Масару ІБУКА**

## Пасля трох ужо позна

*(Працяг.)*

Фундаментальная здольнасць мозгу прымаць сігнал звонку, ствараць яго вобраз і запамінаць яго і ёсць тая аснова, той самы кампутар, на якім трымаецца ўсё далейшае інтэлектуальнае развіццё дзіцяці. Такія сталыя здольнасці, як мысленне, патрабаванне, творчасць, пачуцці, развіваюцца пасля трох год, але яны выкарыстоўваюць базу, сфармаваную да гэтага ўзросту.

Такім чынам, калі ў першыя тры гады не стваралася трывалая база, бескарысна вучыць, як яе выкарыстаць. Гэта ўсё роўна, што намагацца дасягнуць добрых вынікаў падчас працы на дрэнным кампутары.

### Нясмеласць малога ў прысутнасці незнаёмых людзей — доказ развіцця здольнасці адрозніваць вобразы

Там, дзе дарослы чалавек схоплівае інфармацыю, галоўным чынам выкарыстоўваючы здольнасць лагічна мысліць, дзіця карыстаецца інтуіцыяй, сваёй унікальнай здольнасцю ствараць імгненны вобраз: спосаб мыслення дарослага не даступны дзіцяці і прыйдзе да яго пазней.

Самае яркае сведчанне гэтай ранняй пазнавальнай дзейнасці — здольнасць немаўляці адрозніваць аблічы людзей. Мне асабліва запомніўся адзін малы, якога я сустрэў у дзіцячай лячэбніцы. Гаварылі, што ён валодаў здольнасцю адрозніваць 50 чалавек ва ўзросце, калі яму было ўсяго крыху больш за год. Больш таго, ён не толькі пазнаваў іх, але і даваў кожнаму сваю мянушку.

«50 чалавек» — лічба, можа, не вельмі ўражвае, але нават даросламу цяжка запомніць 50 розных твараў на працягу аднаго года. Паспрабуйце запісаць падакладней рысы твару ўсіх вашых знаёмых і паглядзіце, ці можаце вы адрозніць адзін твар ад другога аналагічным шляхам.

### Сучаснае выхаванне робіць памылку, калі мяняе месцамі перыяд «строгасці» і перыяд «усё можна»

Нават сёння многія псіхолагі і педагогі, асабліва тыя, што лічацца «прагрэсіўнымі», лічаць няправільным свядомае навучанне маленькага дзіцяці. Яны лічаць, што лішак інфармацыі адмоўна адбіваецца на нервовай сістэме дзіцяці і больш натуральна прадаставіць яго самому сабе і дазволіць рабіць усё, што ён хоча. Некаторыя нават упэўненыя, што ў гэтым узросце дзіця — эгаіст і робіць усё толькі для свайго задавальнення. Таму бацькі ва ўсім свеце пад уплывам такіх ідэй свядома захоўваюць прынцып «пакінуць у спакоі».

І тыя ж самыя бацькі, калі іх дзеці ідуць у дзіцячы садок ці школу, імгненна адмаўляюцца ад гэтага прынцыпу і раптам робяцца строгімі, спрабуюць выхаваць і чаму-небудзь навучыць сваіх дзяцей. Без дай прычыны «ласкавыя» маці ператвараюцца ў «пагрозных».

Між тым, з вышэй сказанага відавочна, што ўсё павінна быць наадварот. Менавіта ў першыя гады жыцця дзіцяці неабходна быць з ім і строгім, і ласкавым, а калі яно пачынае развівацца само, трэба паступова навучыцца паважаць яго волю, яго «Я». Дакладней кажучы, бацькоўскі ўплыў павінны перапыніцца да дзіцячага садка. Неўмяшальніцтва ў раннім узросце, а затым уціск на дзіця ў больш познім можа толькі загубіць у ім талент і выклікаць супраціўленне.

### 2. Што можа маленькае дзіця

#### Дарослыя паняцці «цяжка» і «лёгка» не падыходзяць для дзяцей

Мы, дарослыя, бяром на сябе смеласць сцвярджаць, напрыклад, што гэтая кніга занадта цяжкая для дзіцяці ці што дзіця не можа ацаніць вартасці класічнай музыкі. Але на якой падставе мы робім такія высновы?

Для дзіцяці, у якога няма дакладных, усталяваных уяўленняў пра тое, што «цяжка» ці «лёгка» — англійская ці японская мовы, музыка Баха ці дзіцячыя песенькі, аднагучная, аднастайная музыка ці гармонія гукаў, — усе павінна пачынацца адначасова, для яго ўсё аднолькава новае.

Вынік, зроблены на падставе пачуццяў, не залежыць ад ведаў, наадварот, веды могуць зрабіцца перашкодай для пачуццяў. Напэўна, многія, калі глядзелі на знакамітую карціну, казалі сабе: «Яна цудоўная!», хаця на самай справе яна вас зусім не кранула, яе каштоўнасць для вас — толькі ў імені мастака і ў яе цане. А дзіця, наадварот, заўсёды сумленнае. Які-небудзь прадмет ці занятак поўнасцю паглынаюць яго ўвагу, калі яму гэта цікава.

*(Працяг будзе.)*

## Мудрыя гавораць...

***Альбер Камю*** (1913—1960) — выбітны французскі пісьменнік, эстэтык, філосаф. Натуральнае зліццё літаратурнага таленту з філасофскай глыбінёй дазволіла Камю стварыць свой літаратурна-філасофскі стыль мастацкага даследавання і асэнсавання сучаснай эпохі, сучаснага чалавека, яго найвышэйшых каштоўнасцяў, сэнсу жыцця, гісторыі, культуры і цывілізацыі ўвогуле.

Кожны твор Камю меў апантаных прыхільнікаў і непрыхільнікаў, выклікаў спрэчкі. Пісьменніка называюць антыбуржуазным, але «левыя» таксама крытыкуюць яго... Камю быў сусветна вядомым, але на радзіме, у Францыі, яго імя амаль не ўпамінаецца. Камю заклікаў да стварэння універсальных каштоўнасцяў, універсальнага чалавечага грамадства, заснаванага на высокай маральнасці. Ён адвяргае званне філосафа і дэманстратыўна называе сябе маралістам. Варагавалі з пісьменнікам і прадстаўнікі рэлігіі, і прыхільнікі гістарычнага месіянства, і прыхільнікі капіталістычнага парадку, і рэвалюцыянеры ўсіх кшталтаў. Камю не далучаўся ні да адной плыні, суполкі ці партыі... Ён быў «сам — свой найвышэйшы суд». Таму нам цяжка «судзіць» яго. Прынята называць Альбера Камю філосафам-экзістэнцыяналістам. Але ён не прызнаваў гэтай філасофіі і не згаджаўся з яе асноўнымі пастулатамі...

Нарадзіўся будучы пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі, у Алжыры, у бядняцкай сям'і. «Я знаходзіўся паміж жабрацтвам і сонцам, — аналізаваў пасля Камю вытокі сваёй філасофскай думкі. — Жабрацтва перашкодзіла мне ўвераваць, быццам усё добра ў гісторыі і пад сонцам, сонца навучыла мяне, што гісторыя — гэта не ўсё». Камю давялося з цяжкасцю прабівацца ў жыцці. Аднак ён зрабіўся студэнтам Алжырскага універсітэта, вывучаў старажытнагрэцкую філасофію. У 1935 годзе арганізуе Тэатр працы, дзе спрабуе сябе і як драматург, і як акцёр, і як рэжысёр... Пісьменніка перапаўняе «прага дзейнасці», яму хочацца ўмяшацца ў сусветную палітыку, перамяніць усё на свеце на свой густ

Падчас Другой сусветнай вайны Камю — у антыфашысцкім Супраціўленні. Ён рэдагуе газеты, пасля вайны ставяцца яго п'есы... Яму здаецца, што вось-вось адбудзецца рэвалюцыя, якая прывядзе да ўсталявання справядлівага грамадства .. Аднак па прыродзе сваёй пісьменнік не быў цвярозым палітыкам: ён лічыў сябе прарокам, прапаведнікам, узнятым над натоўпам сляпых... Яго кнігі прынеслі яму міжнародную славу... Але ён заставаўся адзіным, самотным, «чужым» для ўсіх. Ён пратэстуе супраць усяго, мудра выкрывае ўсіх, крытыкуе ўсе філасофскія і палітычныя плыні і погляды...

4 студзеня 1960 года Камю разбіўся ў машыне, калі вяртаўся ў Парыж пасля святкавання Калядаў. У шуфлядах яго пісьмовага стала не знайшлося нічога, вартага друкавання...

Прапануем чытачам «Нашага слова» падборку выказванняў і афарызмаў Альбера Камю з яго нататнікаў.

**Л.Ш.**

У маладосці я патрабаваў ад людзей больш, чым яны маглі даць: вернасці ў сяброўстве, вернасці ў пачуццях...

Зараз я навучыўся патрабаваць ад іх менш, чым яны могуць даць: быць побач і маўчаць. І на іх пачуцці, на іх сяброўства, на іх высакародныя ўчынкі я заўжды гляджу, як на сапраўднае цуда — як на дар Божы.

Каштоўнасць падарожжу надае страх.

Калі жывеш навідавоку, няма небяспекі, што жыццё складзецца няўдала.

Імкненне заўсёды мець рацыю — прыкмета вульгарнага розуму.

Спазнаць сябе да канца — значыць памерці.

Людзі заўжды вераць не чалавеку, а ўяўленню, якое пра яго склалася.

Сямейныя пары: мужчына намагаецца перад кім-небудзь бліснуць. Жонка зараз жа: «А сам жа ты...» — і стараецца яго прынізіць, выставіць такой жа пасрэднасцю, як і яна сама.

Непавінны той, хто нічога не імкнецца давесці.

Палітыка краіны і лёсаў людзей знаходзяцца ў руках асобаў, пазбаўленых ідэалаў і высакароднасці. Тыя, у кім ёсць высакароднасць, палітыкай не займаюцца

Таму, хто створаны для гульні, заўседы добра ў кампаніі жанчын. Жанчыны — удзячная публіка.

Каханне не пазбаўляе нас ад эгаізму, але прымушае ўсвядоміць яго і нагадвае нам пра далёкую радзіму, дзе для гэтага эгаізму няма месца.

Каханне, якое не вытрымлівае сутыкнення з рэальнасцю, — гэта не каханне. Але ў такім выпадку няздольнасць кахаць — гэта прывілея высакародных сэрцаў.

Адны створаныя для таго, каб кахаць, другія — каб жыць.

**Правіла.** У кожным чалавеку бачыць перш за ўсё тое, што ў ім ёсць добрага.

Пра што чалавек думае, тым ён і робіцца.

*Здароўе*

***Таццяна ФАМІНА,***
***кандыдат медыцынскіх навук***

## Яшчэ пра адну хваробу сістэмы стрававання

(Дыскінезія жоўцевых шляхоў і кішэчніка)

Разладжаная нервовая сістэма і дрэннае харчаванне спрыяюць узнікненню не толькі хваробаў страўніка. З гэтых прычынаў здараюцца функцыянальныя парушэнні жоўцевага пухіра, жоўцевыводных шляхоў і звязаная з гэтымі захворваннямі разладкай скарачэння гладкай мускулатуры кішак, што медыкі называюць дыскінезіяй жоўцевых шляхоў і кішэчніка. Цяперашнім часам на гэтую хваробу западаюць і маладыя людзі, нярэдкая яна і сярод школьнікаў.

Як яна выяўляецца? Хворыя скардзяцца на працяглы боль у правым баку пад рэбрамі («ные ў баку»), скардзяцца на цяжар у страўніку, а часам і на горкі прысмак у роце, нярэдка іх нудзіць. Адсутнасць апетыту тлумачыцца тым, што страўнік звычайна напоўнены, жывот нібы надзьмуты.

Хворыя, у якіх павышаная актыўнасць жоўцевага пухіра (гіпертанічная дыскінезія), скардзяцца на перыядычны спазмавы боль у правым баку пад рэбрамі пасля бегу, скокаў, а таксама пасля спажывання смажаных і тлустых страў. Боль можа аддавацца пад правую ключыцу, лапатку, а таксама ў паясніцу. Паміж прыступамі болю адчуваецца цяжар у правым баку пад рэбрамі.

Пры дыскінезіі жоўцевага пухіра і жоўцевыводных шляхоў надараецца адначасна сцісканне сфінктараў (колцавых мышцаў, якія, скарачаючыся, перапыняюць выцяканне жоўці) ды скарачэнне мускулатуры жоўцевага пухіра. Такія парушэнні перашкаджаюць рэгулярнаму апаражненню жоўцевага пухіра, што ўрэшце вядзе да затрымкі ў ім жоўці. (Праз гэта пазней пачынаюць разрастацца мышцы жоўцевага пухіра.) Такі застой жоўці называецца халестазам.

Дыскінезія кішэчніка — гэта разладжванне тонуса кішак і паступальнага руху рэчыва з страўніка далей па кішках, разладжванне страўнікава-кішэчных рэфлексаў ды іншых маторных функцыяў розных аддзелаў кішэчніка. Як гэта выяўляецца практычна? Хворы скардзіцца, што ён некалькі дзён не апраўляўся, або, наадварот, часты стул. Дакучаюць хвораму таксама болі ў жываце, бурчанне ў кішэчніку, пячайка. Дыскінезія кішэчніка суправаджаецца слабасцю, болем і здчуваннем «перабояў» (парушэнне рытму) у сэрцы, уражлівасцю на холад ды нематываванымі эмацыянальнымі выхадкамі.

### ПРЫЧЫНЫ ДЫСКІНЕЗІІ

Як ужо згадвалася, узнікненне такога стану абумоўліваецца псіха-эмацыянальным і неўрагенным фактарамі, пастаянным стрэсам, што спалучаецца з сядзячым спосабам жыцця (або, як у дзяцей, з празмернай рухлівасцю) ды парушэннямі харчавання. Спрыяюць узнікненню дыскінезіі недахоп у ежы раслiннай клятчаткі, спажыванне свежага малака і малочных супоў, а таксама глісты, алергія, эндакрынныя ды нервовыя захворванні. Яна можа ўзнікнуць і пасля дызентэрыі, лямбліоза. Нерэгулярнасць харчавання, пераяданне, злоўжыванне лекамі, а таксама вынікі аперацыяў на страўнік і кішэчнік.

Пра магчымую прафілактыку дыскінезіі мы пагаворым наступным разам.

*Аптэка танных лекаў*

## Грэчка

*Паводле фізіялагічна абумоўленых нормаў харчавання кожны чалавек мусіць спажываць штогод сем з палавінай кілаграмаў грачанай крупы.*

Дзеля лекавых мэтаў выкарыстоўваецца перш за ўсё так званая трава грэчкі. У зялёных сцяблінах гэтай расліны падчас квітнення ўтрымліваецца руцін (вітамін Р). Асабліва шмат яго ў пылку грэчкі. Як ужо згадвалася, руцін спрыяе трываласці капіляраў — папярэджвае кровазліццё. Ён узмацняе скарачэнне сардэчнай мышцы. У траве грэчкі ўтрымваюцца таксама хлорагенавая, галавая, протакатэхінавая і кававая кіслоты, антацыяны. Апошнія звязваюць іёны «цяжкіх металаў» і цыяністых злучэнняў (гэта атрутныя рэчывы). Лечаць руцінам дыятэз, кровазліццё ў сятчатку вока, а таксама «вынікі» прамянёвай тэрапіі ды гіпертанію.

Аналіз грачанай крупы паказвае, што ў ёй утрымліваецца ад 8 да 20 працэнтаў бялкоў, у тым ліку вельмі каштоўныя амінакіслоты — лізін і трыптафан, крухмал, каля 3 працэнтаў тлушчу, фосфар, жалеза, кальц, солі лімоннай, яблычнай ды іншых кіслот, а таксама вітаміны групы В: $B_1$, $B_2$.

Лічыцца, што грэчка асабліва карысная пры страўнікава-кішэчных захворваннях, малакроўі, парушэннях нервовай сістэмы ды пры ныркавых хваробах. Грачаную муку выкарыстоўваюць у выглядзе прыпарак і мазяў пры захворваннях скуры і пухлінах.

У народнай медыцыне грэчку выкарыстоўваюць як адвар яе кветак і лісця. Яго п'юць ад кашлю, а разам з травой аплавічніку (сушаніцы балотнай) — пры гіпертанічнай хваробе. Свежае грачанае лісце прыкладаюць да нарываў і гнойных ранаў. Парашком з сухога лісця прысыпаюць прэлую скуру ў немаўлятак. (Спажываць унутр свежае лісце і кветкі грэчкі небяспечна, таму што яны ўтрымоўваюць атрутныя рэчывы. З гэтай жа прычыны не даюць скаціне грачаную салому.)

Тлушч, што ўтрымоўваецца ў грачанай крупе, доўга не акісляецца, а таму грачаная крупа можа захоўвацца доўгі час, не трацячы сваёй харчовай вартасці.

**З.С.**

*Мікалай КРЫЎКО — беларушчына.*
*Алена ШЧУКА — англійшчына.*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПІ́КНУЦЬ** размоўнае (зрабіць спробу сказаць што-н., запярэчыць чаму-н.) *А стараста маўчаў, баяўся слова пікнуць у нашу абарону* (Гарэцкі*). [Дзяжа:] — Цішэй. Стрымайце выбух гневу, Пасмейце пікнуць — улажу!* (Колас), **ПІ́СНУЦЬ** і **ПІ́СКНУЦЬ** разм. *[Яўхім:] — Каб на мяне, я б іх даўно прыціснуў! Я б іх так ліхадзеяў гэтых у кулак узяў, што і не піснулі б...* (Чарнышэвіч). *Пісар не толькі што размаўляць, піскнуць пры ім трэба каб баяўся, калі хочаце ведаць, шаноўны пане!* (Брыль).

**ПІКО́ВЫ** (які мае адносіны да картачнай масці пікі) *Цень ляжыць ад гордай елкі, Як піковы чорны туз* (Панчанка)... *[Аня:] — Піковы туз, уніз пікай... непрыемнасць на скорым часе... якая ж гэта мне будзе непрыемнасць?..* («Беларусь»), **ВІНО́ВЫ** *Віновая дама. Азартна рэжуць туз на туз, Чыр-вовы туз на туз віновы* (Аўрамчык). — *А казыры ў нас віні. Во. віновая васьмёрка* (Васілёнак).

**ПІЛАВА́ЦЬ** (раздзяляць напалам пры дапамозе пілы) *Дзед хадзіў кудысьці на работу, ці то пілаваць, ці то складаць дровы* (Лынькоў). *Меншыя дзеці капашыліся на агародзе, большыя — пілавалі, калолі і складалі дровы* (Гурскі), **РЭ́ЗАЦЬ** *Асабліва любіў ён займацца хатняй гаспадаркай: рэзаў і калоў дровы, насіў ваду* (Якімовіч). *Дзям'ян усё бажыўся і круціў галавою, што, дальбог, не ведае, хто памагаў партызанам рэзаць слупы* (Адамчык).

**Пілаванне, піло́ўка, рэ́занне, рэ́зка. Пілавацъ.**

У англійскай мове знаходзім дакладна тую ж карціну: адзін дзеяслоў з спецыялізаваным значэннем — **saw** «пілаваць» і другі — **cut** з агульным сэнсам «рэзаць».

**ПІЛАВІ́ННЕ** зборнае (дробныя частачкі матэрыялу, якія ўтвараюцца пры апрацоўцы яго пілой або напільнікам) *Цяпер піла зноў пайшла лягчэй, шпарка рассейваючы дробнае пілавінне* (Якімовіч). *Як вокам скінуць, ляжыць кругом спляжаны лес, бялеюць паўз камлі горбачкі свежага пілавіння* (Лецка), **АПІ́ЛКІ** адзіночнага ліку няма *Зазвінела піла, Застагнала сасна; Пры дарозе, Як слёзы, апілкі* (А. Александровіч). *Зноў скача зубамі Піла па камлі, Апілкі слязамі На снег пацяклі* (Жычка).

**Пілавінне.**

У англійскай мове таксама знаходзім тут два назоўнікі: **sawdust** і **filing**, але сінонімамі, уласна кажучы, яны не з'яўляюцца, паколькі выбар таго ці іншага залежыць ад матэрыялу і, адпаведна, ад інструменту пры яго апрацоўцы. Так, filing — гэта металічныя апілкі як вынік апрацоўкі металу напільнікам.

**ПІЛАМАТЭРЫЯ́ЛЫ**, *адз.* піламатэрыял, спецыяльнае (матэрыялы з дрэва, атрыманыя шляхам распілоўкі) *Вырастаюць карпусы дрэваапрацоўчага камбіната, які забяспечыць усё будаўніцтва піламатэрыяламі і вырабамі з дрэва* («Беларусь»). *Па дарозе ён [Іван Мацвеевіч] часта спыняе машыну. На лесапілцы распякае нядбайных мужчын за тое, што ўсюды параскіданы каштоўны піламатэрыял* (Хведаровіч), **ПІЛО́ЎКА** зб., разм. *Сеўшы на тоўстую сасновую пілоўку, дзед набраў прыгаршчы жоўтых апілак* (Рылько).

**ПІЛАПАДО́БНЫ** (вострымі выступамі, зубцамі падобны да пілы) *У пілы-рыбы даўжынёй у 6 метраў на верхняй сківіцы ёсць двухметровы пілападобны выраст, пры дапамозе якога рыба нападае на здабычу* («Заалогія»), **ПІЛАВА́ТЫ** *Пілаватае лісце.*

**ПІЛІ́КАЦЬ** разм., пагардлівае (іграць на смычковым інструменце) *[У карчме] у суботу, нядзелю і на свята пілікалі на скрыпках тутэйшыя не вельмі самавітыя музыкі Драбда і Шабас* (С. Александровіч). *Звычайна ў такіх тавернах (з дазволу гаспадара) прыжываецца пацешны старэча-скрыпач, які пілікае на такой жа старой, як і сам, скрыпцы* (Кобец-Філімонава), **ПІЛАВА́ЦЬ** разм., пагард. *Ды што тут хітрага? Пілуй сабе смычком, І будзе не канцэрт, а захапленне* (Корбан), **ПІШЧА́ЦЬ і ПІШЧЭ́ЦЬ** разм., пагард. *[Марыля:] — Пішчэць толькі на скрыпцы, ды і ўся з цябе тут рада і парада!* (Купала).

*Гісторыя моваў на Беларусі*

*Уладзімір СВЯЖЫНСКІ, кандыдат філалагічных навук*

# Беларуская мова

*(Працяг.)*

*«— Сонейка **села**!*
*— Ну, гэта ўжо занадта!»*

**З чорнага гумару эпохі сталінізму.**

## У вузкім коле хаўруснікаў

### (Сацыяльныя дыялекты)

Грамадства амаль заўсёды было падзелена калючым дротам і кратамі на дзве рознавялікія часткі. Па адзін бок гэтай мяжы знаходзілася большая частка — добранадзейныя грамадзяне, кожны з якіх «не был, не имеет, не привлекался», лічыць прыстойным чытаць толькі «Советскую Белоруссию» і галасаваць не за Пазьняка. Меншая частка, якая знаходзіцца па другі бок згаданага маральнага і матэрыяльнага бар'ера, была як бы абдзелена ўвагай грамадства, рэспектабельныя СМІ рабілі выгляд, што гэтых людзей як бы і не існуе. І толькі «на заре перестройки», калі набыла папулярнасць тэма ценявых бакоў жыцця грамадства, мы атрымалі магчымасць бліжэй пазнаёміцца з насельнікамі «мест, не столь отдаленных». А разам з тым і з абслугоўваючым гэты кантынгент моўным утварэннем, абысці якое пры разглядзе формаў існавання мовы было б з навуковага пункту погляду некарэктным.

Натуральна, жаргон зняволеных узнік не ўчора. Ён пачаў фарміравацца з увядзеннем грамадскага інстытута зняволення і яго матэрыяльнага субстрату — цямніц і саміх зняволеных, у асяроддзі якіх і фарміраваліся асобыя нормы паводзін, у тым ліку і маўленчых, у выглядзе жаргону разглядаемага тыпу. Таму можна меркаваць, што асобныя элементы гэтага жаргону ўжо бытавалі ў часы Вялікага Княства Літоўскага. Магчыма, у выніку спецыяльных даследаванняў гістарычных крыніцаў асобныя з іх будуць выяўленыя. У сваім завершаным выглядзе жаргон зняволеных пачаў функцыянаваць ужо ва ўмовах развітай пенітэнцыярнай сістэмы. На Беларусі яна дасягнула вышэйшай ступені свайго развіцця пасля кастрычніцкага перавароту.

З пераходам да фарсіраванай індустрыялізацыі і гвалтоўнай калектывізацыі ў БССР, як і ва ўсім Савецкім Саюзе, усталяваўся і пачаў умацоўвацца дыктатарскі рэжым. Не толькі ў эканоміцы, але і ў палітыцы, ідэалогіі, навуцы, нават у маралі стаўка была зроблена на дыктат. На вялікіх будоўлях сталінскіх пяцігодак пачала выкарыстоўвацца праца спецперасяленцаў, бо пры дапамозе звычайных эканамічных метадаў было немагчыма перамясціць вялізную колькасць людзей для забеспячэння фарсіраванага выканання звышзаданняў. Для гэтага спатрэбіліся тэзісы і аб абвастрэнні класавай барацьбы, і аб масавым арганізаваным супраціўленні будаўніцтву сацыялізму. Галоўнае ўпраўленне лагераў (ГУЛАГ) забяспечвала значную долю грамадскай працы. Менавіта з гэтым былі звязаны разнарадкі па рэгіёнах на «ворагаў народа» і «шкоднікаў». Тая сістэма, якая будавалася пад лозунгамі сацыялізму, вымушана была звяртацца да рэпрэсій. Інакш яна не змагла б існаваць, бо не мела перспектывы ні ў эканамічных, ні ў палітычных адносінах. Каб атрымаць прычыну для ўзмацнення жорсткасці рэпрэсій, у 1934 годзе было здзейснена запланаванае забойства С.М.Кірава. З гэтага часу кожны чалавек не быў застрахаваны ад арышту і пакарання. Узрастала жорсткасць прыгавораў. У 1937 годзе яна дасягнула апагею. У Беларусі, як і ва ўсёй дзяржаве, распальвалася татальная падазронасць, варожасць сярод людзей, гальванізаваліся іх самыя ганебныя інстынкты і чорныя таямніцы душы. Даносы, паклёпы, агаворы зрабіліся звычайнай справай (паводле «Нарысаў гісторыі Беларусі», том 2. Менск; 1995 Стар. 201—206). Павелічэнне колькасці лагераў і турмаў, падаўжэнне тэрмінаў зняволення і колькасці саміх зняволеных — усё гэта і стварала ўмовы для калектыўнай творчасці, у выніку якой і быў створаны жаргон савецкіх зняволеных.

Як вядома, асноўнай прыкметай жаргону разглядаемага тыпу з'яўляецца экспрэсіўнасць словаўжывання, у выніку чаго і фармуецца сам жаргон. Экспрэсіўнасць маўлення — рэакцыя чалавечай псіхікі на знешнія фактары, у нашым выпадку — на ўмовы ўтрымання. Наўрад ці былі дастатковыя ўмовы для стварэння адпаведнага стану душы зняволенага, пры якім яго маўленне набывае экспрэсіўнасць, пры ўмовах утрымання, якія існавалі ў ва ўсходніх славянаў у старажытнасці. Так, у меню зняволенага, агаворанае «Рускай Праўдай» — зводам законаў XIII ст., уваходзіла: *«а коуровъ емоу по двое на день, а хлебовъ на неделю, а пшена семь оуборковъ»*. Няма іх і пры тых умовах, якія існуюць у сучаснай галандскай турме, пяць гадзін знаходжання ў якой журналіст «Огонька» назваў глытком свабоды. На вокнах гэтай турмы няма кратаў, няма абмежаванняў для перадач зняволеным, зняволены можа тэлефанаваць у любы горад свету, на яго рахунак можа быць пераказана любая сума грошай. У турме ёсць царква, студыя выяўленчага мастацтва, скульптурная майстэрня. Камера разлічана на аднаго чалавека (дзе тут умовы для перадачы і пераняцця жаргону?), у камеры ўсе зручнасці, падлога з лінолеуму, мяккі ложак, стол, крэсла, стул, настольная лямпа, фіранкі на вокнах, тэлевізар, радыё з трыма праграмамі, хатнія тапачкі, крэм і шчоткі для абутку, плечыкі для адзення, вядро для смецця, шклянка, відэлец, нож, лыжка, (нашыя зняволеныя атрымліваюць толькі лыжку), кнігі, здымкі родных на паліцах, на паліцы ва ўмывальніку — брытва, мыла, адэкалоны(!). Зняволены мае права не выходзіць на працу. У абедзеннае меню у дзень знаходжання там журналіста ўваходзілі: венгерскі гуляш, мяса з ананасам(!), рыс, садавіна, у нядзелю — грыбны суп, карбанад(!) з гароднінай, яблычны мус; смажаная бульба, садавіна, кожны дзень — новыя стравы.

Мы ж маем тое, што маем. Вось як апісвае ГУЛАГаўскі рэжым знакаміты савецкі зняволены пісьменнік Аляксандр Салжаніцын у сваім вядомым апавяданні «Адзін дзень Івана Дзянісавіча»: «Одна радость в баланде бывает, что горяча... Баланда не менялась ото дня ко дню.. Из рыбки мелкой попадались все больше кости, мясо с костей сварилось, развалилось, только на голове и на хвосте держалось. На хрупкой сетке рыбкиного скелета не оставив ни чешуйки, ни мясинки, Шухов еще мял зубами, высасывая скелет — и выплевывал на стол. На второе была каша из магары. Она застыла в один слиток. Шухов ее отламывал кусочками. Магара не то что холодная — она и горячая ни вкуса, ни сытости не оставляет: трава і трава, только желтая, под видом пшена».

*Культура мовы*

## Што такое *запазычанне*?

Палеміка вакол слоў **пазычанне** і **запазычанне** не сціхае, здаецца, яна зайшла ў тупік, бо ўжо цягам ладнага часу паўтараюцца тыя самыя довады з абодвух бакоў. А сказаць новага, відаць, можна толькі памяняўшы бачанне. Адразу ж мушу зазначыць, што тэрмін **пазычанне** мне падаецца дзеля свае кароткасці значна ўдалейшым і спраўнейшым за адваротны. Для навукі эканомія — рэч досыць паважная, хаця не канечная, але нельга казаць, быццам іншы бок зупоўна не мае рацыі.

Так, дзеяслоў **запазычыць** не можа лічыцца за кальку з расійскае мовы ўжо хаця б таму, што гэтакі ёсць і ў мове польскай (быў і ў старабеларускай), але ён у пэўных умовах мог актывізавацца, разам семантыка прыстаўкі **за-** тут не да канца зразумелая. На маё цвёрдае перакананне, феномен мовы праяўляецца толькі ў дыялектах і працяглай традыцыі. Усякае ж літаратурнае тарнаванне адносіцца да маўлення. Гэта вельмі добра адчуваў Я.Станкевіч, таму яго слоўнік як праца выдатнага фенаменолага мовы мусіць дапамагчы ў развязанні пастаўленай задачы. Таму у двух гнёздах на словы **зычыць** і **пазычыць** спатыкаецца гэтулькі прыстаўкавых утварэнняў, што дзіўна было б адмыслова змагацца з бедным прэфіксам **за-**.

Вось некаторыя з іх: **прыпазычыць** «призанять», **ззычаць** «ссужать», **ззычыцца** «разориться от одолжений», **напазычаць** «наодолжать», **выпазычыць** «пораздавать в долг», **вызычаць** «помогать одолжением», **запазычацца** «задолжать», **запазычыць** «перенять», **адзычыць** «отсоветовать; отблагодарить», **узычыць** «предоставіть, удружить», сюды ж можна было б дадаць **распазычыць** «раздать в долги» і г.д. Як бачым, прыстаўка **за-** можа даваць наступныя значэнні: 1) пазычыць назаўсёды, а не на час, 2) убіцца ў пазыкі, напазычыць вельмі шмат.

Пакуль мы карыстаемся дзеясловамі, то праблемаў з разрозненнем першага і другога значэнняў не ўзнікае дзякуючы постфіксу **-ся**. Але ўжо назоўнік **запазычанне** ды прыметнік **запазычаны** вымагаюць для дакладнага разумення пэўнага кантэксту. А ўзятыя асобна яны ўсё ж больш імкнуцца да другога значэння, ад дзеяслова **запазычыцца**. Ці не разумней было б на гэтым і спыніцца. Балазе, яшчэ «Сіноніма славенароская» **заемление** трактавала як **пазычанне**, а не **запазычанне**. Традыцыя гэная перахавалася аж да нашаніўскае пары і спатыкаем яе мы ў Сяргея Палуяна. *«Нам трэба шмат новых слоў, а* *__пазычаць__* (падкрэслена мною, — Ю.П.) *у суседзяў ня надта хочацца; вось і прыходзіцца карыстаць старымі беларускімі словамі».* Урэшце, **запазычыць** у значэнні «пераняць» паводле сама падставовых дыялектных слоўнікаў зафіксавана толькі аднойчы, Бялькевічам. Значыць, яно мала ўласцівае жывой гутарковай мове і з'яўляецца словаўтваральным плеаназмам.

У схілку хацелася б дадаць, што плеаназмы распаўсюджваюцца не без уплыву расійскае мовы. Яны робяць беларускую мову груваcткаю, маластраўнаю, але ўсё роўна трываюць, бо надта зручныя для аўтаматычнага перакладу. Прыкладам, у Байкова і Некрашэвіча было слова **вінавальнік**, цяпер замест яго ўпарта прапаноўваецца польска-расійскі гібрыд **абвінаваўца**. Плеаназмам мне ўяўляецца і слова **абвінавачанне**, бо дзеянне можна абазначыць і без прыстаўкі — **вінавачанне**, а бок на судзе вымагае зборнага назоўніка **вінавацтва**; параўнайма: *«...І як для вінавацтва, так для абароны, каб былі ў час на месцы сведкі і староны»* (Стары Улас). Усё часцей спатыкаецца абсурднае слова **накірунак**, кантымінацыя беларускага **кірунак** і расійскага **направление**. Вымогамі аўтаперакладу з'явіліся на свет такія калькі, як **своечасовы** замест **учасны**; **неабходнасць** замест **канечнасць, патрэба, мус** і г. д. Пакуль у Беларусі пануе двухмоўе з перавагаю расійшчыны — датуль будуць расці і множыцца словы-калекі. Не дзіўна, што менавіта прыхільнікі двухмоўя абараняюць гібрыдную лексіку

**Юрась ПАЦЮПА.**

*Матэрыялы да слоўніка «Беларускія імёны»*

*Сымон БАРЫС*

## Як у нас клічуць?

### Жаночыя імёны

*(Працяг.)*

**Ма́я.** Мая (бел.) Утворана ад месяца май. Майя — рымская багіня жывой прыроды. Вытв. Майка, Маечка, Маюля.

**Ма́ра.** Мара (бел.). Вытв. Марачка, Маруля.

**Меліціна.** Мелитина

**Мілі́ца. Міла.** Милица (слав.) — мілачка, мілавідная. Вытв. Мілачка, Мілка, Мілаша, Мілава.

**Міра. Міросла́ва.** Мирослава (слав.) — славіцца мірам. Вытв. Мірка, Мірачка. Імяніны катал 11.05, 26 07

**Міхалі́на.** Михалина. Утворана ад мужчынскага імені Міхал (яўр.) — той, хто як Бог. Вытв. Міхалінка, Міхася, Міхаліначка. Імяніны катал. 29.09.

**Мо́ніка.** Моника — напэўна, з грэц. монюс, што азначае адзінокі, самотны. Імяніны катал 4.05; 27.08.

**Му́за.** Муза (грэц.) — багіня навук, мастацтва. Вытв. Музачка, Музанька. Імяніны пр. 29.05.

**Міланега.** Милонега (слав.). Вытв Міланеінка, Мілка, Міланежачка

**Мла́да.** Млада (слав.). Вытв. Младка, Младачка, Младуля.

**Мечысла́ва.** Мечислава (слав.). Утворана ад мужчынскага імені Мечыслаў (слав.) — «Мятаць» славу. Вытв. Мечка, Слава.

**Мсціcла́ва.** Мстислава (слав.). Утворана ад мужчынскага імені Мсціслаў (слав.) — мсціць слава. Вытв. Слава, Славачка, Славуля

**Надзе́я** (бел.). Надежда (расійск.) — калька з грэц. імені Ельпіс — надзея. Вытв. Надзя, Надзейка, Надзеечка, Надзюня, Надзюнька, Надзюся, Надзюсенька, Надзюська, Надзюсечка, Надзька, Надзюшка, Надзюша Імяніны пр. 30.09.

**На́ста, Наста́сся.** Анастасия (грэц.) — уваскрасенне, перасяленне. Вытв Нустуля, Настулька, Настулечка, Настуся; Насця, Насцюха, Насценька, Насцечка, Стася, Тася. Імяніны: пр. 4.01; 28.04; 12.11; катал 27 02; 15.04.

